Дэканальная газета Рыма-Каталіцкага Касцёла Лістапад 2000

# Веснік надзеі

Магілёў - Бабруйск - Асіповічы - Шклоў - Мсціслаў - Чавусы - Касцюковічы – Круглае – Бялынічы - Расно

***«І кожнае стварэнне, якое ёсць на небе і на зямлі, і пад зямлёю і на моры, і ўсё, што ў іх, чуў я, казала: Таму, Хто сядзіць на троне, і Ягняці дабраславенне і гонар,і слава і сіла на векі вечныя!»***

***Адкр 5,13***



***У нумары :***

# *Урачыстасць Усіх Святых*

Формулы аб «еднасці святых» не было яшчэ ані ў нікейскім, ані ў канстанцінапалітанскім сімвале веры. Яна з'явілася толькі напрыканцы IV ст. і паступова распаўсюджвалася. У першых стагоддзях хрысціянства шанавалі Маці Божую, якую сабор у Эфезе (431) назваў Багародзіцай. У часе вялікага крывавага пераследу развіўся культ пакутнікаў, якіх пачаткова ўзгадвалі 1 траўня. У 608 г. папа Баніфацый IV пасвяціў ім Пантэон – даўнюю паганскую святыню. Паступова хрысціяне пачалі ўшаноўваць не толькі пакутнікаў, але і тых, хто праз святое жыццё заслужыў на ўзнагароду неба. Тады Пантэон названа "Касцёлам усіх святых". У 731г. Грыгорый III перанёс успамін святых пакутнікаў на 1 лістапада, а ў 837г. Грыгорый VI аб'явіў, што гэта будзе дзень, прысвечаны ўсім святым Касцёла. У 12 ст. формула аб "еднасці святых" атрымала ўхвалу Касцёла.

### *Святы Максімільян Марыя Кольбэ*

## *Ёсць розныя святыя*

Ёсць розныя святыя: вучоныя і простыя, законнікі і свецкія, склаўшыя законніцкія абеты і навіцыі, і гд. Што ж з'яўляецца агульнай рысай святых? З'яўляецца ёю Божая любоў. Святасць не залежыць ад часу Божай службы, ад узросту, ад саслоўя, а толькі ад Божай любові. Хто хоча быць святым - напэўна ім стане. Трэба хацець. У гэтым "хацець" ужо знаходзіцца Божая любоў.

Больш церпяць тыя, хто хоча ісці ў пекла, чым тыя, хто хоча ісці ў неба.

Святыя з'яўляюцца найшчаслівейшымі людзьмі, і на гэтай зямлі перажываюць прадсмак неба. Тыя ж, хто хоча ісці ў пекла, ужо на зямлі маюць прадсмак пекла.

Пры дапамозе Беззаганнай можам усё. Можам дайсці да высокай святасці, прычым найлягчэйшым шляхам.

Прычынай усякага зла на дарозе да святасці з'яўляецца спадзяванне на ўласныя сілы, а не на Божую дапамогу. Няма такой бездані і такога злачынства, да якога б мы не былі здольнымі, калі б нас не падтрымлівала Божая ласка.

# *2 лістапада – успамін Усіх Памерлых Вернікаў*

Ушанаваўшы трыумф тых вернікаў, якія ўжо ўвайшлі ў неба, Касцёл усгадвае тых, хто ў чыстцу каецца за свае грахі. Каб ім дапамагчы, Касцёл прадстаўляе Пану Богу малітвы і адпусты (дараванні грахоў), атрыманыя праз жывых, перш за ўсё праз Ахвяру Хрыста.

Задушны Дзень, або успамін Усіх Памерлых Вернікаў, увёў абат святы Адылон у бенедыктынскіх кляштарах у Клюні (Францыя). Вельмі хутка гэты звычай распаўсюдзіўся на ўвесь Касцёл

## *Кніга памяці*

**Могілкі** – гэта вялікая кніга памяці, у якой запісаны чалавечы лёс, гісторыя і культура народаў. Могілкі ( лац. coemeterium ) – значыць месца сну, спачынку.

Хрысціянскія могілкі пасвячаюцца, таму з'яўляюцца святым месцам, вымагаючым павагі і адпаведных паводзінаў.

**Брама** могілак ёсць знакам, які аддзяляе свет жывых ад свету памерлых. Хрыстус таксама называў сябе брамай, што вядзе да вечнага жыцця (Ян 10, 9).

**Агароджа** могілак стварае граніцу паміж сакрум ( святым месцам ) і прафанум ( не святым месцам ). Агароджаны абшар – могілкі – святое месца, бо тут спачываюць памерлыя, якія чакаюць змёртвыхпаўстання.

Найважнейшым пунктам каталіцкіх могілак, безумоўна, з'яўляецца **капліца** альбо **крыж**

**Дарога** на могілкі таксама мае сакральны характар. Падчас пахавання яна – "апошні зямны шлях" памерлага.

* * *

У лістападаўскія дні, асабліва ў Дзень Усіх Святых (1 XI ) і Задушны Дзень, альбо Дзяды, ці Дзень Усіх Памерлых Вернікаў (2 XI ), мы збіраемся пры магілах нашых блізкіх. Ахвяруем ім знакі нашай памяці, выражаем іх не толькі праз задбаныя магілы, кветкі ці свечкі, але перадусім праз малітву ( асабліва ружанец ), удзел у Святой Імшы і прынятую ў іх інтэнцыі Камунію.

Памятайце аб захаванні цішыні. Пастарайцеся паклапаціцца пра самотныя магілы, каля якіх можна памаліцца і запаліць свечкі.

Каміль Кубовіч.

# “Не бойцеся быць святымі новага тысячагоддзя !”

“Юнакі і дзяўчаты ўсіх кантынентаў, не бойцеся быць святымі новага тысячагоддзя! Любіце сузіранне і малітву; дзейнічайце паводле вызнаванай веры і ахвярна служыце братам як жывыя члены Касцёла і будаўнікі згоды. Каб урэчаісніць гэту нялёгкую жыццёвую праграму, услухайцеся ў Божае слова і чарпайце сілы з сакрамантаў, асабліва з Эўхарыстыі і сакраманту пакуты. Хрыстус хоча, каб вы былі бясстрашнымі апосталамі Яго Дабравесця і будаўнікамі новага чалавецтва. Ці можаце сцвярджаць, што верыце ў Бога, які стаў чалавекам, калі не выступаеце супраць таго, што прыніжае чалавека і сям'ю? Калі вы верыце ў тое, што Хрыстус аб'явіў любоў Айца да кожнага тварэння, то павінны не шкадуючы сіл уключыцца ў будову новага свету, апартага на моцы любові і прабачэння, на змаганні супраць несправядлівасці і ўсякай фізічнай, маральнай і духоўнай галечы, на падпарадкаванні палітыкі, культуры і тэхнікі чалавеку і яго ўсебаковаму развіццю,” – з Паслання Святога Айца на XV Сусветны Дзень Моладзі.

*Сярод удзельнікаў Дня Моладзі была група з магілёўскай катэдры і грэка-каталіцкай парафіі.. Па просьбе рэдакцыі моладзь дзеліцца з нашымі чытачамі сваімі ўражаннямі.*



В августе 2000 г. около 2,5 молодых людей со всего мира собрались на XV Всемирный День Молодежи в Риме. Могилевский приход представляла делегация из 20 пилигримов. Программа поездки включала 4-х дневное пребывание в пригороде Вероны – Сеттимо, и 5-ти дневное непосредственно в Риме.

В Сеттимо нас разместили в радушных итальянских семьях. Поскольку наш автобус очень опаздывал, итальянцы прямо у стен костела покормили нас сразу всем тем, что так терпеливо нас ожидало с 15 часов дня до 2 часов ночи. Четыре дня в Сеттимо пролетели как один миг – интересные экскурсии, встречи, знакомства, общие молитвы и Святые Мессы. Одна из Месс с участием епископа Флавия Роберто Весково прошла на площади у костела св. Зена в Вероне. Епископ вручил каждому из нас символический ключ от этого храма, приглашая нас вернуться вновь.

А тем временем нас ждал Рим – Вечный город. Программа пребывания была очень напряженной. Но даже когда все мероприятия заканчивались и надо было идти отдыхать, все стремились увидеть еще другие славные места Рима. Особое впечатление и огромный след в моем сердце оставило посещение Ватикана. Для меня это было мечтой всей жизни. Войдя на его территорию, попадаешь на площадь св. Петра. Мне трудно передать те чувства, которые я тогда испытала. Это было своеобразным потрясением, вызвавшем у меня не только слезы, чувство всеобъемлющей радости и полноты жизни, но также понимание смысла жизни и своего предназначения в ней.

Ну, конечно, нельзя не рассказать о самом главном: о Святых Мессах, которые проводил Иоанн Павел II. Мессы проходили в 10 км. от Рима в месте под названием Тор Вергато, куда пилигримы отправлялись пешком. Вечером 19 августа состоялось первое Богослужение, которое венчал громадный по масштабам фейерверк, удивительно красивый, всех цветов радуги, сопровождающийся музыкой и хоровым пением. Всю ночь пилигримы провели под открытым небом Тор Вергато. Утром состоялась Святая Месса, завершающая Юбилейную встречу молодежи в Риме. В своей проповеди Папа Иоанн Павел II призвал жить в мире, быть добрыми людьми и христианами, не бояться быть святыми. Папа признался, что считает себя молодым, потому что много общается с молодежью и сослался на пословицу: «С кем поведешься, от того наберешься». Эти слова Святого Отца вызвали радость и улыбки на изможденных сорока пяти градусной жарой лицах пилигримов. Трудно передать те волнующие и завораживающие чувства, посетившие нас во время этой Мессы; казалось, что от силы всеобщей молитвы миллионов людей открылся океан Божьей милости. Границы языкового общения стираются, и начинается взаимопонимание на уровне душ и сердец людей, что и зовется единением в вере.

Если кто-то желает пережить подобное, советую вам обязательно принять участие в следующем Всемирном Дне Молодежи, который пройдет в Торонто в 2002 году!

Россинская Ольга

Эмануэль – гэта з намі Бог (Мт 1,23).

“ Шляхамі супакою, сцяжынамі веры прыйшлі мы ў Рым, каб пачуць незмаўкальнае рэха Слова.
Рымскія сцены, рымскае неба абвяшчаюць сусвету: Ён жыве – сапраўдны Чалавек – Хрыстус з намі!” –гэта словы з гімну XV Сусветнага Дня Моладзі, які сёлета адбываўся ў Італіі.

І сапраўды, 2,5 млн. маладых людзей з усяго свету, адчуваючы гэты пакліч Слова, прыехала ў Рым, каб яшчэ раз пачуць, што Хрыстос сапраўды сёння жыве з намі, жыве сярод нас.

У XV Сусветным Дні Моладзі ўдзельнічала таксама група з Магілёва. Мы ехалі ў аўтобусе пад нумарам 5 разам з моладдзю з Мінска і Бабруйска. Нашым кіраўніком быў кс. Андрэй Сіповіч.

Першае месца нашага прыбывання ў Італіі – горад Верона. Мы спыніліся на начлег у прыгарадзе Вероны Сеццімо. Нягледзячы на тое, што мы прыехалі сюды ў 3 гадзіны ночы, нас сустракалі сем'і, у якіх мы пасля жылі. Ужо гэта сведчыць, наколькі добра і з вялікай любоўю нас гасцілі ў Італіі. І сапраўды, усё было цудоўна! Кожны дзень мы мелі Святую Імшу, якую рыхтавалі разам з італьянскай моладдзю. Пасля нас чакала разнастайная праграма: мы былі ў гарах,

мелі экскурсію па Вероне, удзельнічалі ў розных святах. Акрамя гэтага ў кожны вольны момант для нас былі падрыхтаваны гульні і забавы, а таксама вельмі смачны абед пад адкрытым небам каля касцёла. Мне асабліва спадабалася свята, якое адбывалася ў Вероне, каля касцёла Сан-Дзэно. Напачатку было святочнае прывітанне пілігрымаў, пасля Св. Імша, а напрыканцы дыскатэка пад хрысціянскія спевы. Было цудоўнае надвор'е, блакітнае бязвоблачнае неба і такая ж цудоўная атмасфера: прыемна было знаходзіцца сярод радасных маладых хрысціянаў.

Нажаль, у Вероне мы былі толькі 3 дні. Пасля мы паехалі ў Асіж, дзе наведалі храм св. Францішка Асіжскага. І вось – Рым. Тут нас таксама чакала шмат цікавага і павучальнага. Асабліва хацелася б спыніцца на прёме. Мы жылі ў школе пры парафіі св. Джэрарда Майела – гэта тытулярная парафія нашага ксянза – Кардынала Казіміра Свёнтка. Мы былі прыемна здзіўлены, калі ксёндз – пробашч гэтай парафіі ўмыў нам ногі, кажучы, што яму вельмі прыемна нас бачыць.

У Рыме праходзіла асноўная частка нашай пілігрымкі. Кожны дзень мы мелі Св.Імшу, а таксама катэхезу, якую праводзілі святары з Расіі, сярод якіх быў і кс. біскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Быў час на тое, каб самастойна пахадзіць па Рыму, наведаць храмы, славутыя мясціны. Аднойчы мы праходзілі у сабор св. Пятра – самы цэнтр Рыма, а таксама цэнтр хрысціянства– праз святыя вароты, якія адчыняюцца раз у 25 год.

У апошнія два дні нашай пілігрымкі мы ішлі за 10 км. ад Рыма, каб сустрэцца з Папаю. У першы дзень гэта было святочнае прывітанне, малітва і канцэрт. На другі дзень – а гэта была нядзеля – мы ўдзельнічалі ў Св. Імшы разам з Янам Паўлам ІІ. Асноўнай тэмай казання Святога Айца, а таксама ўсіх сустрэч і катэхез, якія адбываліся ў гэтыя дні, была тэма святасці. Папа Ян Павел ІІ казаў, што не трэба баяцца быць святымі, таму што Хрыстос памёр за нас і ўваскрос дзеля нашага апраўдання. Сёння Хрыстос – гэта Эмануэль - з намі Бог. Ён заўсёды з намі, сярод нас, у нас.

Пабываўшы ў Рыме, сярод такой колькасці хрысціянскай моладзі, пачынаеш разумець, што ты не адзін, нас шмат, і ўсе мы – адно цела, цела Хрыста. А Хрыстос сапраўды сярод нас, бо ніколі нас не пакідаў.

Наталля.

"І Слова целам сталася і пасялілася між нас"(Ян 1, 14). Гэтыя словы з Эвангелля паводле св. Яна сталі дэвізам XV Сусветнага Дня Моладзі. Над гэтым урыўкам Святога Пісання разважалі 2 мільёны маладых людзей, якія на 5 дзён адабралі спакой у жыхароў Рыма: запоўнілі храмы, вуліцы і аўтобусы. Цяжка перадаць усе свае ўражанні, напішу пра тое, што было найбольш запамінальным.

Зараз для мяне Ян Павел ІІ стаў блізкім звычайным чалавекам, а не кімсці далёкім. Вельмі прыемна было прысутнічаць на Літургіі, якую праводзіў папа. Аказваецца, ён добра разумее праблемы і патрэбы маладых. Цяпер ведаю, чаму Рым называюць "Вечным горадам". Вечнасць – гэта калі няма часу, няма мінулага і будучага, а толькі сёння. У Рыме сапраўды губляеш адчуванне часу. А як можа быць інакш, калі стаіш каля Калізея, якому некалькі тысячагоддзяў; калі ідзеш па катакомбах, дзе маліліся і давалі сведчанне веры першыя хрысціяне; калі выходзіш з трамвая - і раптам трапляеш на Cirko massimo ( месца пакутніцкай смерці хрысціян), а побач – руіны палаца Нерона. І гэты пералік можна працягваць і працягваць.

Як цудоўна было пабачыць адразу столькі людзей! Безумоўна, я і раней ведала, што хрысціяне ёсць на ўсіх кантынентах, што яны маюць свае традыцыі і абрады. Але гэта былі толькі тэарэтычныя веды. А на Дні Моладзі я ўбачыла жывы прыклад: розныя колеры скуры, розныя мовы, розныя песні, безліч розных сцягаў, розныя спосабы малітвы. Напрыклад, моладзь з Афрыкі перад пасілкам спявала і іграла на барабанах. На Беларусі такога не пабачыш. Менавіта тут, у Рыме, я лепш усведаміла, што слова "каталіцкі" значыць паўсюдны.

Як і ўсе пілігрымы, мы наведалі базіліку св. Пятра. Кожны дзень туды ішлі натоўпы людзей, і я думала, што ў базіліцы будзе шумна і нельга будзе засяродзіцца. Але дзіўна – калі на вуліцы людзі размаўлялі і смяяліся, то ў храме ўсе былі такія стрыманыя. Не скажу, што была мёртвая цішыня, проста там быў спакой і зусім не хацелася выходзіць, як вучні Хрыста не хацелі пакідаць гару Фавор.

У Рым мы ехалі цягніком разам з палякамі, украінцамі і расіянамі. Ва ўкраінскай групе ехалі некалькі сляпых хлопцаў. Ім было каля 25 год, яны былі вельмі адкрытыя і вясёлыя. Адзін нават іграў на гітары і каля яго заўсёды збіралася кампанія. Назіраючы за імі, я была вельмі ўражана, бо ехала ў Рым з прадчуваннем таго, як пабачу ўсе знакамітыя месцы, пра якія столькі чытала, як пабачу маладых людзей з усяго свету, як у рэшце рэшт пабачу Папу. А гэтыя хлопцы загадзя ведалі што нічога там не ўбачаць. І ўсё ж ехалі ў Рым. Тады я падумала: "А хто ж з нас больш сляпы?"

Гэта ўсё, што я магу больш-менш звязна тут напісаць. Астатнія ўражанні і ўспаміны можна коратка ахарактарызаваць так: без слоў, але ў сэрцы.

Вераніка.

У рамках правядзення XV Сусветнага Дня Моладзі і святкавання Юбілейнага Года адбылася пілігрымка беларускай моладзі ў "Вечны горад", у якой давялося ўдзельнічаць і мне. Наша група складалася з пяці чалавек, што паходзілі з розных гарадоў Беларусі: Брэста, Мінска, Магілёва і Полацка. Па прыездзе ў Варшаву мы далучыліся да польскай "зборнай". У Варшаве нас гасцінна прыняў Усходні Евангелізацыйны Цэнтр. Паколькі мы прыехалі самымі першымі, то мелі добрую магчымасць пазнаёміцца з яго працай і агледзець увесь Цэнтр. Наступны наш прыпынак быў у Турыне, дзе мы ўдзельнічалі ў трохдзённых рэкалекцыях Міжнароднага Аб'яднання "Моладзь, паўстань", якое злучае шматлікія еўрапейскія харызматычныя рухі, плыні і суполкі. У рэкалекцыях удзельнічала каля трох тысяч чалавек з розных краін свету. Праграма была досыць разнастайнай і насычанай, а ў апошні дзень рэкалекцый мы мелі паломніцтва да славутай турынскай плашчаніцы.

Наступным нашым прыпынкам быў Рым, дзе нас пасялілі ў вялікім цэнтры на некалькі тысяч чалавек, падобна таму, што быў у Турыне. Так склаліся абставіны, што знаёмства з Рымам я пачаў з Цырка. Я апынуўся тут яшчэ да таго, як агромныя натоўпы вернікаў хлынулі сюды, каб ушанаваць памяць хрысціянскіх пакутнікаў, ушанаваць месца, на якім загінула за веру больш хрысціянаў, чым у славутым Калізее. Гэта было амаль бязлюднае месца, нічым не

прыкметнае і не маючае ніякай архітэктурнай прыгажосці. Толькі група людзей рупна капашылася каля нейкай драўлянай будовы, якая яшчэ з цяжкасцю нагадвала будучы святочны алтар.

Цяжка апавядаць аб кожным месцы, аб кожнай наведанай святыні, бо ўсе яны маюць сваё жыцце і адметную гісторыю. Хацелася б яшчэ дадаць, што менавіта тут, у Рыме, я ўпершыню адчуў сум па сваёй Радзіме, адчуў, як многа значаць для мяне тыя закуткі, якія нават не заўсёды заўважаеш там, і якія становяцца такімі роднымі тут, за многія сотні кіламетраў. Менавіта тут я па-сапраўднаму пачаў цаніць сваю культуру, свае ўсходнія традыцыі, пачаў разумець, што ніякія нават самыя прыгожыя спевы і танцы свету не заменяць мне цішыні нашых храмаў, пакорных паклонаў... І таму вельмі прыемнай для мяне была першая сустрэча з беларускай групай на пляцы Святога Пятра. Мова, жарты, усмешкі – усё было такім блізкім і родным. Шкада толькі, што тут, на Радзіме, не заўсёды бачым і так мала цэнім гэты скарб.

Алесь.

---

### *Хвала Франциску*

Как славно танцует сегодня
Над Умбрией солнечный диск !
Веселая птица Господня,
Назвал тебя братом Франциск.

Поверив рассказу о чуде,
Глазами Ассизи окинь.
Здесь молятся камни и люди,
Здесь царствует птичья латынь.

А в храме отчетливо-резки
И так величаво просты
И золото джоттовой фрески,
И ангелов белых черты.

Франциск по дороге шагает,
Весеннему радуясь дню,
И новые песни слагает
Деревьям, воде и огню.

Отбросив заботы и страхи,
По-прежнему за бедняком
Веселые братья монахи
Идут по земле босиком.

И как подтверждение дара
Неслыханной той простоты,
В руках францисканца гитара
С цветами и небом на ты.

Рожденный в просторе зеленом,
Столетия преодолев,
Летит по стремительным склонам
Ее немудреный напев.

В нем слышится весть утешенья
Для всех, чей удел – нищета,
Кто ведает радость лишенья
И любит свободу Креста.

А небо немыслимо близко,
И сердце от счастья поет,
И солнце святого Франциска
Сегодня над нами встает.

Григорий Зобин

---




## *«Наша задача – нести Богородицу миру»*

*(из руководства Легиона Марии)*

Легион Марии для меня очень важен. И с каждым днем я чувствую это все больше и больше. Очень хорошо помню, как я пришла на первое собрание Легиона. Это было осенью 1998 г. Меня пригласила на собрание сестра Регина – легионерка старшего поколения. О деятельности Легиона я тогда ничего еще не знала.

Постепенно я включилась в активную работу. Прежде всего, я стала проводить работу по духовному раскрепощению среды сотрудников детского сада, где я работаю. Но, как ни удивительно, это оказалось делом непростым. Нужно было академическим языком рассказывать о Евангелии, подыскивая при этом доступные слова, чтобы это шло от сердца к сердцу. Поначалу приходилось выслушивать насмешки и колкие слова, встречаться с непониманием со стороны родителей моих воспитанников и коллег. Но все эти неприятности остались позади. Сейчас можно привести много примеров обращения к Богу.

Наш Легион по-прежнему работает. Меня всегда приятно удивляло стремление к порядку, организованности, дисциплине. Нашей настольной книгой и помощью в работе является «Руководство Легиона Пресвятой Богородицы» ирландца Фрэнка Даффа, основателя Легиона.

Со времени своего основания наш Легион изменился и возмужал, заметно изменились и все мы. Теперь мы более активны в своей работе: мы стали целенаправленнее проводить евангелизацию, посещаем больницы, инвалидов, одиноких и престарелых людей на дому. Люди по-разному воспринимают наши посещения, всякое бывает во время наших разговоров. Но все-таки большинство людей приветливо нас встречают, внимательно слушают и задают вопросы. Значит, лед тронулся: обратятся люди к Богу, пойдут в церкви и костелы. А это радует больше всего.

Сестра Людмила

# Подготовка к таинству примирения

*В воспитании человека на пути к зрелой вере очень часто отсутствует элемент совершенствования его отношения к таинству покаяния. Наибольшее внимание исповеди уделяется во время подготовки ребенка к первому причастию. Однако, 9-10 летний ребенок не в состоянии осознать всего, что происходит во время этого таинства.Тем не менее, многие останавливаются на этом.*

***Таинство покаяния, как и все остальные основные положения веры, должно быть пережито на всех этапах жизни: в детстве, юности, в зрелые годы.***



*Если человек не чувствует ценности и смысла таинства на разных этапах своей жизни, то часто происходит так, что, расставшись с детством, он перестает принимать в нем участие, или, что не менее опасно, продолжает исповедаться "по-детски", инфантильно.*

*Каждая новая жизненная ситуация, новые обстоятельства, новые обязанности, новые трудности, искушения, новые грехи требуют нового подхода к таинству примирения. В новой жизненной ситуации человек должен как бы заново открыть для себя ценность и значение святой исповеди, которая может стать огромной помощью в личном совершенствовании человека и стимулом к внутренней работе над собой .*

*При подготовке к таинству примирения хорошо было бы воспользоваться предлагаемым способом испытания совести, состоящим из 3-х частей :*

*1.Confessio laudis - прославление Бога, выражение благодарности за все полученные дары;*

*2. Confessio vitae - признание в своих слабостях, неверностях и грехах,*

*3.Confessio fidei - исповедание веры, предание себя с полным доверием Господу.*

***<u>1.CONFESSIO LAUDIS</u>***

Св. Игнатий в "Духовных Упражнениях" призывает к тому, чтобы ежедневное испытание совести начиналось с "благодарности Богу, Господу нашему, за полученные благодеяния" (ДУ 43). Человек-творение должен пребывать перед Богом-Творцом как постоянно одаряемое существо. Сотворение - Искупление - это не просто исторические события, совершенные Богом Творцом и Искупителем в далеком прошлом, это постоянное действие Бога "в данный момент", с помощью которого Он непрерывно выражает свою любовь к человеку.

Действие Бога - это одаривание человека, поэтому свою жизнь надо воспринимать как постоянное принятие всего, что дает нам Бог. Наши потребности и нужды, сверхмерная забота о собственном благополучии очень часто загораживают от нас ту истину, что все является даром и что "всегда и за все" мы должны благодарить "Бога Отца во имя Господа нашего Иисуса Христа" (Еф 5,20 ).

Подготовку к исповеди можно начать с благодарения Бога за все "полученные благодеяния" за последнее время. Спросим себя: что оказалось для меня особой милостью за последние дни, недели, месяцы или годы, за которую я хочу сейчас благодарить Бога. Вспомним конкретные внутренние переживания, ситуации, происшествия, отношения с ближними, которые были для нас источником особой радости. Думали ли мы о них с благодарностью по отношению к Богу, как о Его даре?

Если вера человека слаба, ему грозит опасность зазнаться и начать думать, что он всего добился сам, либо впасть в этакую наивность, заставляющую его считать, что все "происходит само собой". Чувство признательности приходит от реалистического взгляда на жизнь, который возникает благодаря внимательному размышлению человека над самим собой и над окружающей действительностью. Здравомыслящий человек быстро приходит к выводу, что без Бога он ни на что не способен.

Очень часто мы бываем недовольны собой, своей жизнью, даже презираем себя. Мы недооцениваем себя, свои достижения, но с завистью смотрим на более удавшуюся, как нам кажется, жизнь других людей. Бывает так, что мы завидуем ближним, а они завидуют нам.

Обычно сатана начинает искушать, внушая нам: "Если бы у меня была другая жизнь, вот тогда бы я был действительно счастлив". Так змей в раю искушал человека в самый первый раз, и тогда ему удалось убедить Адама и Еву, что, будь они на месте Бога, то были бы действительно счастливы. Часто мы думаем: "Если бы мне больше везло в жизни, если бы у меня была более удачная семья, если бы я был более умным, богатым и т.д., вот тогда я был бы счастлив". Но ни один человек на земле не может сменить свою ситуацию на более подходящую, никто не может оказаться на чужом месте, каждый может быть только самим собой на своем месте.

Благодарить Бога - это значит принять с радостью и смирением "свое место" на земле как дар самого Бога, избегая завистливых взглядов в сторону наших ближних. Благодарить Бога - это значит быть довольным той жизнью, которую Он нам дал, той ситуацией, в которую ввел нас. Благодарить Бога - это значит верить в то, что именно в этой жизни, какую имеем, мы можем хвалить Его, служа своим ближним, и через это спасти свою душу (ДУ 23). Благодарить Бога значит чувствовать себя нищим духом, который сам по себе не имеет ничего и сам ничего не может взять, но все получает от Того, кто властвует над небом и землей. По-настоящему нищий духом и смиренный человек принимает с благодарностью любой дар, как ничем не заслуженную милость.

Поблагодарим Бога не только за те дары, которые вызывают у нас радость и удовлетворение, но и за дары тяжелые и болезненные, которые призывают нас к более глубокому доверию к Богу. Иногда переживания и жизненные испытания открывают перед нами бессмысленность нашей суеты. Экстремальные ситуации ясно показывают нам, что далеко не все зависит от нас и мы не можем строить свою жизнь только своими силами. Так Бог призывает нас к себе и за это мы должны благодарить Его, как благодарим врача, который, хотя и причиняет нам боль, но все-таки исцеляет.

О.Йозеф Августин SJ , "По великой милости твоей", Реколлекции, основанные на "Духовных Упражнениях" св.Игнатия Лойолы

*Продолжение следует .*

## *Святы Францішак і воўк*



4 кастрычніка Каталіцкі Касцёл узгадвае святога Францішка. Аб гэтым святым нам вядома, што ён жыў у невялічкім італьянскім горадзе Асіжы на пачатку 13 стагоддзя. Францішак паходзіў з сям'і заможнага гандляра. Але калі будучы святы вырас, адрокся ад належнага яму спадку і стаў убогім манахам.

Францішак вельмі любіў звяроў і птушак, называў іх сваімі братамі і нават апавядаў ім аб Езусе Хрысце.

Аднойчы Францішак даведаўся, што непадалёк ад горада Губбіо з'явіўся драпежны воўк, які нападаў не толькі на жывёлу, але і на людзей. Воўк быў такі страшны і небяспечны, што жыхары горада баяліся далёка адыходзіць ад сваіх дамоў.

Францішак пашкадаваў іх і разам са сваімі сябрамі прыйшоў туды, дзе жыў воўк. На гэтым месцы сабралася многа людзей, жадаючых паглядзець на тое, што там здарыцца. Калі драпежны воўк выйшаў са свайго логава, Францішак сказаў яму:"Хадзі сюды, браце воўк! У імя Езуса Хрыста загадваю табе не рабіць нічога дрэннага ні мне, ні каму-небудзь іншаму". І здарыўся цуд! Злосны і скалячы зубы воўк спыніўся, закрыў пашчу і пакорна, як лагодная авечка, падышоў да святога і лёг каля яго ног.

"Браце воўк, - працягваў Францішак, - ты зрабіў многа зла і таму заслужыў смерць. Жыхары гэтага горада прыйшлі сюды, каб табе адпомсціць. Але я заключаю мір паміж імі і табой. Ты не будзеш больш іх крыўдзіць, а яны табе прабачаць і будуць карміць цябе да канца тваіх дзён. Абяцай мне, што больш нікога не пакрыўдзіш. Абяцаеш?" На знак згоды воўк кіўнуў галавой. Тады Францішак працягнуў яму далонь, а воўк даў яму сваю лапу.

Ад таго часу воўк нікога больш не крыўдзіў. А людзі, што назіралі за ўсім гэтым, пачалі радасна славіць Бога за святога Францішка, які вызваліў іх ад драпежнага воўка.

**КРОССВОРД**

Конечно, ты знаешь, что Маму Иисуса звали Мария. Полистай Библию и вспомни, как звали маму:

По горизонтали:
1.Пророка Самуила (1 Цар 1,19-20).
2.Фареса и Зары (Мф 1,3;Быт 38,24-30).
3.Царя Соломона (2 Цар 12,24).
4.Исаака (Быт 21,1-7).
5.Гада и Асира, сыновей Иакова (Быт 30,9-13).
6.Иакова и Исава (Быт 25,21-26).
7.Иосифа и Вениамина (Быт 30,22-24;35,16-20).

По вертикали:
8.Рувима, Симеона, Левия, Иуды, Иссахара, Завулона (Быт 29,31-35;30,14-20).
9.Иоанна Крестителя (Лк 1,57-63).
10.Каина и Авеля (Быт 4,1-2).
11.Иакова и Иоанна, сыновей Заведея (Мф 27,56;20,21; Мк 15,40; 16,1).
12. Дана и Неффалима, сыновей Иакова (Быт 30,1-8).
13.Измаила, сына Авраама (Быт 16,15-16).
14.Пророка Моисея, Аарона и Мариам (Исх 6,20).



# СВЯТЫЕ...



*...излучают внутренний свет*



*...все принимают*



*...отличаются простотой*



*...не носят масок*



*...позволяют другим быть впереди*



*...не цепляются "мертвой хваткой " за других*



*...их тоже может встретить неудача*



*...видят доброе в каждом*



*...не имеют ответов на все вопросы*



*...знают, когда нужно быть серьезным*



*...и когда веселиться !*



*...знают,что нуждаются в прощении*



*...часто напоминают самых лучших матерей*



*...не отказывают себе в приятных мелочах*



*...постоянно в дороге*



*...часто говорят : "Спасибо !"*

*Святые щедры, терпеливы, доброжелательны, готовы помочь, умеют прощать, чутки и жизнерадостны...*
*А какой ты ?*
*Эта шутливая страница приглашает тебя к раздумью .*

"Веснік надзеі" – парафіяльная газета. Газета выдаецца на ахвяраванні вернікаў.
Заснавальнік: Архікатэдра Св.Станіслава.
Адрас рэдакцыі : 212030 г.Магілёў, вул.Камсамольская 4, тэл.22-19-84.Наклад 499 асобнікаў.
Нумар падпісаны да друку 30.10.2000.Рэдактар: сястра Алена. Афармленне: Стрэж Наталля.